# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1931

ЧЭРВЕНЬ

11–12

НА САВЕЦКІХ ПАЛЁХ—САВЕЦКІЯ ТРАКТАРЫ





# ЗЬМЕСТ:

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 ТЭЛ. № 17-09.

ЧЭРВЕНЬ 1931
XVIII



# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

11-12





За прызыў ударнікаў у літаратуру



ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

АДКАЗНЫЯ СЭКРАТАРЫ БелАППУ.



МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

# Бел АПП

З артыкулу Пл. ГАЛАВАЧА

ЧАС паміж першым зьездам БелАПП і другім пашыраным пленумам (12--16/V—31 г.) прайшоў пад знакам ідэолёгічнага і творчага росту беларускае пролетарскае літаратуры і пролетарскіх літаратур другіх народаў БССР. На пашыраны пленум БелАПП прышло ўжо, як вядучы атрад усяе савецкае літаратуры, як адзін з перадавых атрадаў БелАПП, як верная апора партыі на літаратурным фронце. Гэта дало пленуму магчымасьць разгорнута ставіць і пытаньні становішча пролетарскае і ўсяе савецкае літаратуры.

У якіх-жа ўмовах разьвіваецца пролетарская і савецкая літаратура сёньня? Чаго вымагае ад літаратуры дадзены этап разьвіцьця нашае краіны?—Гэта пытаньні, адказ на якія пленум павінен быў даць і даў.

БССР за час першых двух гадоў пяцігодкі зрабіла вялізарныя крокі ўперад ва ўсіх галінах і гаспадарчага і культурнага разьвіцьця. Уступілі ў строй дзесяткі новых соцыялістычных прадпрыемстваў; выканана пяцігодка па гарбарнай і папяровай прамысловасьці БССР; больш трыццаці процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак БССР аб'яднаны ў колгасах; зроблены вялізарныя дасягненьні ў справе культурна-нацыянальнага будаўніцтва. Гэтыя дасягненьні сталі магчымымі толькі дзякуючы правільнаму ажыцьцяўленьню нашай партыяй ленінскай нацполітыкі; дзякуючы няпрымірымай барацьбе партыі з усялякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі ЎсеКП(б); дзякуючы адданай героічнай барацьбе рабочае клясы за соцыялістычнае будаўніцтва.

Дасягненьні ў справе соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР зроблены ва ўмовах абвостранага клясавага змаганьня. У абставінах жорсткага клясавага змаганьня адбываецца соцыялістычнае будаўніцтва і сёньня. Змаганьне ідзе на ўсіх, самых вялікіх і самых малых вучастках соцыялістычнае будоўлі. У гэтым змаганьні вырастае перамога соцыялізму.

Пролетарская літаратура—зброя ў руках пролетарыяту ў яго змаганьні за соцыялізм. Гэта ставіць перад пролетарскай літаратурай шэраг адказьнейшых задач. Трэба пасіліць ідэёвую няпрымірымасьць БелАПП'у ў змаганьні з варожымі пролетарыяту ідэолёгічнымі тэндэнцыямі, як нацыянал-дэмократызм, як пераверзеўшчына, ідэалізм. Нацыянал-дэмократызм у літаратуры разьбіты, але яшчэ далёка не дабіты цалкам. Рэцыдывы нацыянал-дэмократызму маюць і будуць мець месца і ў творчасьці і ў літаратуразнаўстве і ў далейшым. Гэта патрабуе ад БелАПП і марксыцкае крытыкі ні ў якім разе не паслабляць змаганьня з нацыянал-дэмократызмам, выкрываць яго контррэволюцыйную сутнасьць.

Надзвычайна вялікае значэньне ў нашых умовах мае змаганьне з пераверзеўшчынай. Дзякуючы цэламу шэрагу прычын, пераверзеўшчына і да гэтае пары мела магчымасьць прапаведывацца з катэдр БДз. Унівэрсытэту, не сустракаючы належнага адпору. Гэта тым большае мае значаньне, што ў нашых умовах пераверзеўшчына зьяўляецца сваявыразнай праявай вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму. Прадстаўнікі пераверзеўшчыны ў сваёй рабоце ў БДзУ ніякай увагі не аддавалі беларускай пролетарскай і савецкай літаратуры, ігноравалі яе. У выніку студэнты свае работы, зьвязаныя з прапрацоўкай мэтодолёгічных пытаньняў, будавалі на аналізе творчасьці амаль выключна расійскіх клясыкаў, у вельмі рэдкіх выпадках на аналізе твораў паасобных пролетарскіх расійскіх пісьменьнікаў і зусім ігноравалі літаратуру беларускаю. Вынікам гэтага-ж зьяўляецца адсталасьць літаратурна-лінгвіністычнага аддзяленьня і асьпірантуры ад нашага літаратурнага жыцьця, якое мае месца і на сёнешні дзень, хаця ў апошнія дні некаторыя крокі ў напрамку ліквідацыі гэтага адрыву ўжо зроблены.

БелАПП, марксыцкая крытыка, правялі вялікую работу па змаганьні з нацыянал-дэмократызмам і ў галіне творчасьці і ў літаратурназнаўстве, але далёка недастаткова, яшчэ вядзецца змаганьне супроць ідэалізму, за марксысцкая-ленінскую мэтодолёгію. На барацьбу за ўладаньне ленінскай спадчынай у пытаньнях мастацтва, павінны быць мабілізаваны сілы БелАПП.

Што да змаганьня з вялікадзяржаўным расійскім шовінізмам, дык трэба адзначыць, што БелАПП не аддавала гэтаму пытаньню дастатковае ўвагі. Калі нацдэмы адмаўлялі магчымасьць разьвіцьця беларускае пролетарскае літаратуры і гаварылі пра беларускую літаратуру, як адзіна-нацыянальную, дык вялікадзяржаўныя расійскія шовіністы адмаўляюць наогул магчымасьць разьвіцьця беларускае літаратуры, у лепшым выпадку адводзяць ёй месца на задворках, як літаратуры другараднай і лічаць за нізкае для сябе займацца гэтай літаратурай; альбо абвяшчаюць ўсю беларускую літаратуру агулам нацдэмаўскай і, хаваючыся нібы за барацьбу супроць нацдэмаўшчыны, вядуць барацьбу супроць і пролетарскае і ўсяе савецкае беларускае літаратуры.

Змаганьне з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай у барацьбе партыі за ленінскую нацполітыку, у галіне літаратуры патрабуе большай увагі да гэтага пытаньня ад усіх філій БелАПП, ад кожнага белапаўца паасобку і значнай актывізацыі ў справе папулярызацыі беларускай пролетарскае і савецкае літаратуры ад профсаюзных клюбных і фабрычных бібліотэк. Кніжка беларускага пролетарскага і савецкага пісьменьніка павінна заняць належнае месца і ў нашых бібліотэках

і сярод рабочых чытачоў. Гэта ў аднолькавай меры адносіцца і да яўрэйскай і польскай літаратур.

Мы надзвычайна мала ведаем пра рэволюцыйную пролетарскую літаратуру Заходняе Беларусі, таму надзвычайна вялікае значэньне мелі выступленьні на пленуме па пытаньнях літаратуры Заходняе Беларусі. Пролетарская рэволюцыйная беларуская літаратура расьце, ня гледзячы на шалёны тэрор польскіх акупантаў, ня гледзячы на агромную дзейнасьць беларускіх нацыянал-фашыстаў Астроўскіх-Луцкевічаў. Яна ствараецца ў глыбокім падпольлі, часта ў турэмных камерах і яна, ня гледзячы на сваю, чыста формальную слабасьць, зьяўляецца моцнаю зброяй КПЗБ, рабочых і працоўнага сялянства ў іх змаганьні за свае соцыялістычнае і нацыянальнае вызваленьне. Гэтую літаратуру мы павінны ведаць, павінны ведаць яе і шырокія масы працоўныя Савецкае Беларусі.

Пролетарскі пісьменьнік павінен быць актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва і ў першую чаргу сваёй мастацкаю творчасьцю. Гэты ўдзел будзе тым больш, чым большай будзе значымасьць творчасьці пролетарскага пісьменьніка, яе актуальнасьць, а гэта, у сваю чаргу, неадрыўна зьвязана з мастацкай якасьцю творчасьці. На сёньня мы маем у гэтым сэнсе значнае адставаньне пролетарскай літаратуры, бо адставаньне гэта значыць, што пролетарская літаратура адыгрывае недастатковую, у параўнаньні з неабходным, ролю ў клясавым змаганьні, у змаганьні за соцыялізм. Мы гэтае адставаньне перамагаем і павінны перамагчы, а гэта і значыць, што мы павінны павялічыць ролю пролетарскай літаратуры ў змаганьні за соцыялізм. Вырашэньне гэтае задачы немагчыма, калі мы ня звернем галоўнае ўвагі на мастацкую якасьць нашай продукцыі.



**Васіль Каваль і Сымон Баранавых у часе пленуму.**

Вялізарным крокам уперад у гэтым сэнсе была разгорнутая пастаноўка на пленуме творчых пытаньняў. Пастаноўка гэтых пытаньняў паказала, што беларуская і яўрэйская пролетарскае літаратура маюць вялікія творчыя дасягненьні, што пролетарскі пісьменьнік авалодвае дыялектыка-матэрыялістычным мэтам у сваёй творчай рабоце, шэраг твораў дае нам конкрэтны прыклад больш-менш удалых спробаў рэалізацыі творчага мэтоду пролетарскай літаратуры.

Слабым вучасткам зьяўляецца тэорэтычная непадрыхтаванасьць масы белапаўцаў, авалоданьне матэрыялістычным сьветапоглядам. Ад пасьпяховага вырашэньня гэтае задачы залежыць і ліквідацыя адставаньня.

У справе ліквідацыі адставаньня для пролетарскай літаратуры асабліва вялікае значэньне мае арабочваньне організацыі, заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру. БелАПП на сёньня яшчэ толькі распачынае гэтую працу, яна яшчэ ўперадзе. На выкананьне гэтай задачы павінны быць мобілізаваны ўсе нашыя сілы. У гэтай справе БелАПП патрэбна вялікая і сыстэматычная дапамога з боку комсамольскіх і профсаюзных організацый. Трэба сказаць, што і профсаюз і комсамол асабліва пытаньням пролетарскага руху належнае ўвагі не аддавалі. Перанесьці сюды цэнтр увагі, стварыць пролетарскую літаратурную грамадзкасьць, шырокі масавы рабочы літаратурны рух,—вось галоўная наша задача.

Пролетарская літаратура ў тварах БелАПП'у—гэта баявая пролетарская організацыя. Творчасьць пролетарскага пісьменьніка павінна быць баявой зброяй соцыялістычнага пазнаваньня і пераробкі сьвету. Над справай соцыялістычнай пераробкі нашай краіны працуюць сотні тысяч рабочых і колгасьнікаў, працуюць тысячы лепшых рабочых ударнікаў і ўдарнікаў колгасных палёў. Краіна павінна ведаць сваіх герояў і вопыт работы гэтых лепшых прадстаўнікоў рабочае клясы. Паказаць іх і іхнюю работу самым шырокім масам працоўных—гэта чарговая баявая задача пролетарскае літаратуры. Пленум БелАПП'у абвясьціў сябе мобілізаваным на выкананьне задачы мастацкага паказу пяцігодкі і паставіў гэтую задачу перад усёй Асоцыяцыяй. Вырашэньне гэтай задачы зьяўляецца баявой праверкай для БелАПП'у і з гэтага пункту гледжаньня павінна правярацца яе выкананьне.

У справе змаганьня за пролетарскую літаратуру вялізарнае значэньне мае сталінскі лёзунг „Тварам да тэхнікі". Гэты лёзунг ёсьць лёзунгам і пролетарскай літаратуры. Тэхнічная няпісьменнасьць пісьменьнікаў зьяўляецца сур'ёзнай перашкодай у сэнсе як мастацкага ахапленьня рачаіснасьці ва ўсіх яе праявах, так і ў зразуменьні новага этапу рэволюцыі ва ўсёй яго паўнаце. Авалоданьне неабходным мінімумам тэхнічных ведаў; сувязь пісьменьніцкіх аб'яднаньняў з навукова-тэхнічнымі ўстановамі; мастацкая популярызацыя тэхнічных ведаў,—вось некаторыя з мерапрыемстваў па ажыцьцяўленьні гэтага лёзунгу.

Сярод спадарожнікаў за гэты час (пасьля зьезду БелАПП'у) адбылася рэзкая дыфэрэнцыяцыя. Некаторыя з іх цалкам перайшлі ў лягер контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму; большасьць, наадварот, імкнецца наблізіцца да пролетарскай літаратуры, да аўладаньня пролетарскіх сьветапоглядаў, тым самым імкнецца стаць саюзьнікам пролетарыяту. Наша задача ўсяляк дапамагаць гэтаму набліжэньню: таварыская дапамога, пасьлядоўная таварыская крытыка недахопаў і памылак спадарожнікаў і самая бязьлітасная барацьба супроць усялякіх праяў нацдэмаўскае і буржуазнае ідэолёгіі, — гэтым павінны адзначацца нашыя адносіны да спадарожнікаў. Умець адрозьніваць саюзьніка ад ворага, дапамагчы таму, хто шчыра імкнецца працаваць з намі, біцца за кожную жывую адзінку, каб пасабіць тым з падарожнікаў, хто яшчэ ня цалкам вызваліўся з-пад уплыву нацдэмаўшчыны, вызваліцца ад гэтых уплываў. Трэба памятаць, што набліжэньне спадарожнікаў да пролетарскае літаратуры,—гэта ёсьць адыход іх ад позыцый „нэўтральнасьці", „пасыўнасьці" і набліжэньне іх да позыцыі пролетарыяту, а не адступленьне ад гэтых, пролетарскіх позыцый БелАПП. Той, хто гэтага яшчэ не разумее, хто думае свае набліжэньне да позыцый пролетарыяту купіць адыходам БелАПП'у ад гэтых позыцый, той рызыкуе папасьці ў лягер буржуазнае літаратуры.

БелАПП сёньня зьяўляецца ідэёва вядучым атрадам усяе савецкае літаратуры. Да свайго пашыранага пленуму БелАПП прышло з вялікімі ідэёвымі і творчымі дасягненьнямі. Гэтыя дасягненьні сталі магчымымі толькі таму, што БелАПП усю сваю работу праводзіла пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі; у сувязі з шырокімі масамі працоўных; у абставінах барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам і шовінізмамі другіх відаў; у абставінах барацьбы супроць правае небясьпекі—„лявацкіх" загібаў, за бальшавізацыю пролетарскага літаратурнага руху. Гэтыя ўмовы будуць і закладам далейшых, яшчэ больш перамог пролетарскае літаратуры. БелАПП павінна быць і будзе перадавым бальшавіцкім атрадам беларускае савецкае літаратуры.

# ПОЭЗІЯ БелАПП'у НА ПЕРАЛОМЕ

*Артыкул М. Аляхновіча*



Міхась Чарот.



Андр. Александровіч.



Ізі Харык.

На сёнешні дзень нельга сказаць аб паэзіі БелАПП, як аб нечым адзіным, суцэльным. Поруч з асноўным ядром пролетарскіх поэтаў мы маем некаторую частку поэтаў пролетарска-колгасных і параўнальна значную групу унутраных спадарожнікаў, якія ў пэўнай сваёй частцы імкнуцца перайсьці на рэйкі пролетарскай поэзіі.

Міхась Чарот (пакуль не ўваходзіць у БелАПП) зьяўляецца адным з пачынальнікаў нашай пролетарскай поэзіі. Ужо сваёй першай поэмай „Босыя на вогнішчы" ён зрабіў буйны ўклад у нашу маладую поэзію. Яго творчасьць цалкам сугучна з ідэямі Кастрычніка. Зборнікі вершаў „Завіруха" і „Сонечны паход" паказваюць нам поэту не старонынім наглядчыкам рэволюцыйнай завірухі, а яе непасрэдным актыўным удзельнікам.

Адчуваньнем нашага жыцьця, мастацкім адбіцьцём процэсаў барацьбы пролетарыяту Беларусі, моцнай верай у лепшую будучыню, за якую мы змагаемся, поўняцца радкі поэты. Апошнія гады мы бачым новы творчы ўздым Чарота, які даў цэлы шэраг твораў, у якіх ён паказвае пасобныя моманты нашай эпохі, паказвае, як нараджаецца новы чалавек, як у процэсе клясавай барацьбы аформляюцца расткі новага социялістычнага побыту.

Поэт выступае супроць тых, хто перашкаджае нашаму творчаму росту. Выступленьне купкі нацыянал-дэмократычнай інтэлігенцыі, якая вяла шкодніцкую політыку, якая імкнулася шляхам інтэрвэнцыі зьнішчыць дыктатуру пролетарыяту, вызвала баявы адпор з яго боку. („Суровы прыгавар падпісваю першым").

— Чарот бязумоўна, зьяўляецца адным з лепшых пролетарскіх поэтаў нашай сучаснасьці.

Але трэба ўсё-ж зазначыць, што яго творчасьць апошняга кругабегу паказвае толькі паасобныя моманты, якія яшчэ не даюць шырокага малюнку сучаснасьці. Мы наглядаем процэс творчай перабудовы поэты адпаведна задачам рэконструкцыйнага пэрыоду. Будзем спадзявацца, што вялізныя творчыя магчымасьці Чарота змогуць шырока разгарнуцца і што ён зможа даць новыя творы, якія будуць адпавядаць нашай эпосе так, як калісьці адпавядала свайму часу ягоная поэма „Босыя на вогнішчы".

У творчасьці Андрэя Александровіча асноўнае месца займае адбіцьцё процэса социялістычнага будаўніцтва ў горадзе. Новы горад, работа рабочых, саматужнікаў, барацьба пролетарыяту за новую індустрыяльна-колгасную Беларусь, социяльныя і інтэрнацыянальныя мотывы, мотывы лучнасьці працоўных розных нацыянальнасьцяй—знаходзяць пачэснае месца ў яго творчасьці. Поэт, не адступаючы ні на крок, ідзе нага ў нагу з жыцьцём.

У вершаваным рамане „Нараджэньне чалавека" (друкам ня скончаны) ён спрабуе паказаць процэс нараджэньня новага чалавека, процэс формаваньня пролетарскай ідэолёгіі ў жанчыны ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту.

Поэма „Цені на сонцы" новы значны крок на творчым шляху поэты. У ёй ён выводзіць цэлую галерэю шкоднікаў, асоб, якія, карыстаючыся „савецкім дабрадушшам", прымазаліся да нашага ладу, каб лепш шкодзіць. Для нас важна політычная актуальнасьць поэмы, пачуцьцё клясавай ненавісьці да тых, хто змагаецца супроць справы пролетарыяту. Аўтар тут паказвае конкрэтных носьбітаў зла, ён ускрывае іх клясавую сутнасьць, Паказвае іх, як цёмныя цені на сьветлым сонцы нашага социялістычнага будаўніцтва.

Ня толькі ў „Ценях на сонцы", але і ў шэрагу вершаў, як „Міністр", „Крыўда", „Аукцыён", „Поэма пра ворага" і інш. Александровіч сьмела зрывае маскі з нацыянал-дэмократаў мастацка-ўпэўніваюча паказвае твар агентаў інтэрвэнцыі.

— Продукцыя апошніх год, якая сабрана ў зборніках „Угрунь", „Устаноўка", „Гудкі", „Фабрыка сьмерці" паказвае на шырокае кола тэм, якое ахапляе аўтар, на тое, што Александровіч тэматычна перабудаваў сваю творчасьць, адпаведна задачам сучаснасьці.

Аднак пераважна развазжлівы падыход да творчасьці зьніжае социяльна-значную тэматыку. Александровіч добра ведае тое, аб чым ён піша. Але гэтыя веды адарваны ў яго ад сьветаадчуваньня, таму што ён элемэнты сьветаадчуваньня адсоўвае ад сваёй поэзіі. Разрыў паміж думкай і словам, паміж асноўным апасрэднічаньнем і непасрэдным успрыняцьцем сусьвету трэба яму перамагчы.

Пятрусь Броўка высунуўся ў нашай поэзіі за апошнія гады. У сваёй раньняй поэме „Рапорт" ён рапартаваў пролетарскай грамадзкасьці аб цэлым шэрагу шкодных і хваравітых зьявішчаў у нашым літаратурным жыцьці. Яго творы апошніх год ставяць самыя баявыя тэмы сучаснасьці. У адным з сваіх лепшых вершаў „Гады як шторм" ён на фоне сьмерці Леніна паказвае асноўныя моманты змаганьня пролетарыяту за новае жыцьцё. Паказвае глыбока і эмоцыянальна-ўпэўніваюча.

Броўка ўмее ўвязваць актуальнасьць сваёй тэматыкі з глыбокім адыходам да жыцьця, асэнсіць гэтыя зьявы жыцьця ня толькі паасобку, але і ў іх комплексе.

Але трэба зазначыць, што схэматызм у падачы зьяў жыцьця ім яшчэ канчаткова не пераможаны („Прамова фактамі"). Праўда, такія творы, як „Цэхавыя будні", аповесьць „Каландры" паказваюць процэс перамаганьня, але гэты процэс яшчэ ня скончаны.

Броўку трэба ня толькі перамагчы павярховасьць і схэматызм, якія яшчэ ёсьць у яго—яму трэба многа і ўпарта вучыцца, каб даць пролетарскай літаратуры высокакаштоўныя творы.

Мікола Хведаровіч сваёй першай кніжкай „Настроі" вызваў вострыя нападкі часткі нашай крытыкі. І зразумела чаму. Непераможныя рэшткі дробна-буржуазнай ідэолёгіі яшчэ моцна сказаліся ў гэтым зборніку. Апошнія часы поэта спрабуе творча перабудавацца, прабуе наблізіцца да пролетарскай поэзіі (новая тэматыка, социяльная насычанасьць, актыўнасьць). Але гэта набліжэньне да пролетарскай поэзіі ідзе не па шляху глыбокага апанаваньня дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам, а па шляху перанясеньня на беларускую глебу элемэнтаў падфарбаванага конструктывізму.

Марксыцкая крытыка ясна даказала, што шлях конструктывізму не зьяўляецца шляхам пролетарскай поэзіі. Яна ўскрыла рэакцыйныя элемэнты ў іх дэкляарацыі і творчасьці.

Таму зразумела, што захапленьне конструктывізмам не дапамагае Хведаровічу ў яго творчай перабудове.

Творчасьць часткі поэтаў унутраных папутнікаў характарызуецца органічнай рэволюцыйнай шчырасьцю, жаданьнем паглыбіцца ў тэму, уцёкамі ад таннага стандарту. Але яшчэ не пераможаны канчаткова—пасыўнасьць, кніжнасьць, эстэтства. Яшчэ няма ў іх творах сапраўднай узрушанасьці. Праўда, поэты ўзрушаны самімі сабой, сваімі нядолямі і радасьцямі. Але таму, што гэтыя нядолі і радасьці малазначны і, ва ўсякім выпадку, пазбаўлены шырокага соцыяльнага зьместу, то чытачу ад іх ня цёпла і ня холадна.

Ча та вершы на рэволюцыйныя тэмы поэтаў-спадарожнікаў правільны. Яны спрабуюць зваць і організоўваць чытача. Але яны, як нядобраякасная продукцыя нашых заводаў, знашваюцца хутка. Ды і ня быць інакш. Бо доўга жыве тое мастацтва, якое ўтвараецца ў выніку глыбокага прадумваньня і „вчувствования" ў атуляючую рэчаіснасьць, у выніку непадрыўнай сувязі поэты з перадавымі ідэямі свайго часу.

Для адных мінулыя гады былі гадамі блуканьняў (Маракоў, Звонак). Другія таварышы прышлі ў поэзію бяз значнага жыцьцёвага вопыту, без рэволюцыйнага гарту. Яны прышлі ў нашу організацыю ў маладым узросце з дробнабуржуазнага асяродзьдзя, ня нюхаўшы пораху клясавых боек, і гэта паклала адбітак на іх творчасьць (Таўбін, Куляшоў, Астапенка).

Алесь Звонак сваёй першай кніжкай „Буры ў граніце" аддаў даніву дробнабуржуазнай ідэолёгіі. У поэмах „Каршун" і „Трэцяя поэма" ён паспрабаваў, выкарыстоўваючы тэматыку грамадзянскай вайны, даць творы, сугучныя пролетарскай поэзіі. Але павярховы падыход да тэмы, сваяасаблівы экзотызм, захапленьне романтыкай, пры ўсім суб'ектыўным жаданьні поэты не змагло паказаць значнага зруху аўтара.

Але гэта перабудова пакуль ідзе па лініі павярхоўнага паказу нашае эпохі. Характарным зьяўляецца верш „Крокі эпохі", дзе аўтар, абмежаваўшыся гучнымі словамі, зусім не паказвае ўнутраных процэсаў, якія адбываюцца ў жыцьці.

Творчасьць Валерыя Маракова характарызуецца набліжэньнем да нашай сучаснасьці, але поэт да гэтага прышоў віхлястым шляхам.

Ад яго першага зборніка „Пялёсткі" (1926) вее сумам і ўпадніцтвам. Вершы прасякнуты сантымэнтальна-мэлянхолічным настроем.. Убачыўшы горад ён адварнуўся ад яго, ня ў марах, а ў рэчаіснасьці, адгукваючы няўхільнасьць руйнаваньня старога патрыярхальнага жыцьця. Ад гарадзкой культуры ён імкнецца на ўлоньне прыроды.

У наступным зборніку „На залатым пакосе" (1927 г.) ён спрабуе адыйсьці ад ранейшых настрояў. Праўда, на жыцьцё ён глядзіць здалёк і ўспрымае яго павярхова—толькі вонкавы бок. Адсутнасьць шырокага сьветапогляду прыводзіць да таго, што глыбокія ўнутраныя процэсы жыцьця застаюцца па-за яго ўвагай. Як працяг эгоцэнтрызму раньніх вершаў, мае месца поза, любаваньне сабой.

Апошняя кніжка „Вяршыні жаданьняў (1930 г.) паказвае больш значнае набліжэньне да сучаснасьці. Ён пачынае ўспрыймаць процэсы жыцьця не як староньні наглядач, а як непасрэдны ўдзельнік. Ён спрабуе ў свае творы прынесьці рэволюцыйнасьць. Але трэба зазначыць, што гэты зрух у бок новага яшчэ носіць характар стыхійнасьці, а не пранікненьня ў глыбіню зьяў.

Калі яго ранейшыя вершы былі поўна глыбокага лірызму, н пасрэднасьці, фарбнасьці, дык новыя творы, якія паказваюць шлях набліжэньня Маракова да пролетарскай літаратуры, яму яшчэ цалкам не ўдаюцца. У вершы „Адтуль, дзе палыхаюць домны" і інш. ён падае толькі вонкавасьць зьяў, не прасякаючы ў іх глыбіню.

Для групы поэтаў Таўбін, Куляшоў, Астапенка, якія імкнуцца наблізіцца да пролетарыяту сваёй творчасьцю, асноўным зьяўляецца тое, што яны падыходзяць да нашай сучаснасьці не як непасрэдныя ўдзельнікі, а як староньнія гледачы. Іх пачуцьці, іх тэмы, іх гэсты, іх подбор слоў разьлічаны на некаторы эфэкт, якія не выплывае з іх сутнасьці.

Небходна констатаваць адставаньне іх поэзіі ад задач рэконструкцыйнага пэрыоду.

Для Таўбіна яшчэ характар а любаваньне словам дзеля слова, концэнтрацыя тэматыкі вакол свайго „Я".

Апошняя поэма Куляшова „Крыўда" зьяўляецца характарным прыкладам спадарожніцкай поэзіі. У гэтым творы падаецца імпэрыялістычная і грамадзянская вайна. Але замест ускрыцьця законамернасьці пераходу вайны імпэрыялістычнай у вайну грамадзянскую, аўтар, недастаткова разумеючы рухаючыя сілы нашай пролетарскай рэволюцыі, выказвае „крыўду" супроць усякай вайны, сваяасаблівы пацыфізм.

Апошнія гады даюць значны рост новых поэтычных кадраў. З літстаронак і дадаткаў газэт яны пераходзяць на староньні нашых таўстых часопісаў.

Некаторыя з іх ужо сёньня становяцца значнымі пролетарскімі пісьменьнікамі (Зарэцкі).

Але пры ўсёй соцыяльнай насычанасьці і актуальнасьці іх тэматыкі (Ракіта, Віталін, Ушакоў, Агняцьвет, Курбацкі, Хадкевіч, Пруднікаў, Алесін, Маёвы ды інш., трэба зазначыць слабое апанаваньне дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам, слабую мастацкую апрацоўку твораў.

Матэрыялістычная дыялектыка ў прыстасаваньні да пролетарскай поэзіі ранейза ўсё мяркуе пасьлядоўна-матэрыялістычны падыход да ўсіх зьяў сусьвету. Ня толькі ўся злучнасьць мастацкіх прыёмаў павінна быць матэрыялістычна, матэрыялістычным павінен быць і сам падыход да матэрыялу. Кожны твор павінен дапамагаць пазнаньню сусьвету, у процэсе клясавай практыкі зьмяняць яго. Мы павінны падкрэсьліць дзейсную рэволюцыйную ролю поэзіі. Матэрыялістычна - дыялектычны мэтод імкнецца ня толькі да пазнаньня сусьвету, але і да яго зьмены. Адгэтуль асаблівую цікавасьць для пролетарскага поэты набывае паказ жыцьця ў яго станаўленьні, у барацьбе пачаткаў прогрэсыўных і рэакцыйных, учора і заўтра. Адгэтуль імкненьне ўвесьці чытача ў гэтую барацьбу, як актыўна дзейную асобу, даць творчую зарадку, быць, прыкладам для перайманьня, якое актыўна ўмешваецца ў жыцьцё і зьмяняе твар сусьвету.

Неабходна, каб кожны поэта ясна ўсьвядоміў тыя запатрабаваньні, якія прад'яўляе яму жыцьцё. Неабходна падвышэньне агульнага культурнага ўзроўню поэтаў. Неабходна прывучыцца самастойна мысьліць і політычна, і філёзофскі, і мастацкі; упарта змагацца за апанаваньне дыялектыка-матэрыялістычным мэтодам работы над словам—вось умовы, пры наяўнасьці якіх наша поэзія змажа выйсьці на шырокую дарогу.

„Адзем'яніваньне" нашай поэзіі, заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру, рост новых поэтычных кадраў з шэрагаў пролетарыяту дапаможа хутчэйшай перабудове нашай поэзіі адпаведна задачам рэконструкцыйнага пэрыоду.



Валеры Маракоў.



Пятрусь Броўка.



Алесь Звонак.

# РАБКОРЫ - ЎДАРНІКІ

Нарыс
ЮРКІ БІТУСА

Пачалося яно са сьлясарнага цэху.

Імчаліся дні. Шлёгалі гучна пасы па шківах, круціліся шась-цяронкі варштатаў „Сэсінзі", беглі.

Міналася дэкады, месяцы, квадры. Яшчэ некалькі дзён і будзе палова 3-га рашаючага, яшчэ некалькі дэкад—і ўся пяцігодка. Вось на доле ляжаць валікі, прыгожа адточаныя шрубы, шасьцярні. Стаяць, бы шклянкі, чырвоныя цыліндры помпаў, круглыя дугі кувыркоў. Малымі бранявікамі паўзуць на вазках камнядрабілкі. Грукочуць, плывуць туды. дзе віднеецца шырокі двор, горад, нарэшце ўся краіна, дзе вечна стаяць з барадатымі нагамі ламавікі і чакаюць загаду свайго гаспадара, куды-б завесьці груз.

— Гр-р-р,—цяжка грукочуць колы.

— Ці-і-гі-і,— скрыгочуць, пішчаць, бы гвалтоўна зьвязаныя і пакладзеныя на воз машыны.

А краіне столькі патрэбна іх—дробных, грамоздкіх і зубастых, якія-б падобна арэхам трускалі каменьне. падымалі руду, капалі штольны, тунэлі.

Праходзілі дэкады, месяцы, квадры.

Сьлясарны цэх апошнім прыкладаў свае сілы да кожнае дэталі. Быў сьведкаю колькасьці і якасьці выпускаемай прадукцыі, ведаў запал кожнага другога цэху.

Па касым схіле неба дзень павольна каціўся да захаду. Выбухнуў прарэзьлівы, магутны гук.

— Гу-у-у да-мо-ў!— апавяшчала сырэна. На дварэ бегатня і шум.

— У чым справа?—пыталіся некаторыя.

— У тым... На сход трэба.

Блакітны туман дыму хутка напоўніў рабочы клюб, здавалася столь хацеў узадраць, выкарабкацца на прастор. Жывая гамонка паміж рабочымі пераліваласн на розныя тоны, падобна машыннай, была выразнаю. рытмічнай.

У бліскучай ад мазі куртцы, з мэтрам у левай кішэні, рухавы майстар сьлясарнага цэху тав. Гобэрман дакладваў сходу аб тым, што дэкадны плян недавыкананы, што другія цэхі несваячасова падаюць паўфабрыкаты, што і яны адстаюць.

Выказваў вялікае нездавальненьне супроць браку, глуму.

— 24 гады працую на вытворчасьці, кожнаму вядома... А ці перараблялі пасьля мяне.

Шуршэлі па паперы алоўкі, вязаліся доўгія ланцужкі слоў, сказаў. Бы тоўстыя і крутыя рогі бралі рабкоры-ўдарнікі факты (у сьлесарным цэху—кожны ўдарнік—рабкор), вадзіліся з імі, дужаліся. А яны ўпартыя хадзілі ўсьлед, наступалі на ногі, гарэзьліва крывілі свае твары, сьмяяліся.

— Дзе корань перашкод?

І словы майстра Гобэрмана „недавыканалі", „зьнізілі тэмпы" ганебна насіліся ў паветры, круціліся гульлівымі маленькімі стварэньнямі і чапляліся на правады, адарваныя лёзунгі кулдыкаліся на падлозе.

Кожнаму хацелася злавіць хоць адно гэта назойлівае, гульлівае, прыціснуць падноскам, каб зрабіць нярухомым, няжывучым.

Заслухаўшы інформацыю аб становішчы выкананьня пляну, па ўсім заводзе рабкоры—Пісьман, Бэльдман, Казіла, Дрыжэр і іншыя зараз рашылі пагаварыць асобна.

Пасьля сходу яны вопрамецьцю кінуліся ў другі пакой. Сабраліся. Пакуль Пісьман (ён адказны рэдактар шматтыражкі „Комунаравец") капаўся ў папцы, хлопцы жартавалі:

— Юзік, што ў цябе за поясам?

Той паглядзеў, а калі злавіў рукою нейкі доўгі матуз, нарочна некім прычэплены, гучна разам з усімі засьмяяўся.

— Ой, глядзеце! гэта работа Вадзі.

— Таварышы!—нарэшце пачынаў Пісьман, — усё зразумела. Нам рабкорам раней за іншых трэба ўзяцца за ліквідацыю прарыву. Як? Складзем сквазныя. Былі ды распаліся—недапушчальна. Кожнага зрыўшчыка сюды. Ведаеце! Тэмпы! Пляна ў рушыць нельга. Ні на капейку, ні на вінцік. Ну?

Праз адчыненыя вокны малога пакою павяваў мяккі вецер. А калі адчыняліся дзьверы, тады вецер узмацняўся, у пакоі падымалася вялікая бура. Ляцелі са стала паперы, надзімаліся ад сьцен плякаты, рабіліся круглымі, пукатымі.

— Інакай нельга. Рынемся...—вышла апошнім слова з пакою...

Конвэер цэхаў зноў на поўным ходу. Энтузіязмам маладых ахоплены ўвесь завод...

Запрацавалі сквазныя, стварылыся шэраг ударных рабкораўскіх брыгад імя Ўсебеларускага зьезду рабкораў.

Ой яблычка-а
Ды куды ко-о-ці-сь-ся-а ды...

Чулася ў часе працы ў сьлесарным.

— За пераходны! Хлопцы! А давай падымем такую ідэю. Узяць!

За граніцу пападзе-еш
Не вароцісь-а-а!

— Эх дзівакі! Вось разам гэта ўзялі-б. Напружана так, ну і ўзялі-б.

Прайшла дэкада. Зноў аклікала ваколіцу сырэна, толькі ня трывогай, ня жалем.

# НА РАСЬЦЯРОБЕ

Верш
СЯРГЕЯ АСТРЭЙКІ.

Асмолкі зары на далёкім кургане.
Бялеюць абрысы Птушыных Дарог.
Туману адбрэнгалі пудкія здані,
І сонца угору ўзьнялося на корх.

Ў гушчарах туляецца навалач змроку,
Цьвірчыць пасьля ночы трухлявы
шыльнік.
І эха сланяецца лесам далёка:
Мажныя зрываюцца з кораня пні.

Сухія наўкола ляцяць аскабалкі,
Дашчэнту пастрэмлена імі зямля.
Дрыжыць загамованым шумам прагалак,
І хвоі высокія гольлем смыляць.

Руплівая праца брыгад дрывасекаў
Краіне рыхтуе дрыўяны сырэц.
Смалы надарылі хваіны на лекі,
Піла іх зубамі за ногі бярэ.

Гібляюцца рукі навошчаных елак,
Падаюца наперад наровяць яны.
Успадае на гольле патрушчаны нелад,
Ўядаюцца ў зямлю глыбока ражны.

Ім рукі абсекаюць вострай сякерай,
Сьцінаюць галовы, зьдзіраюць кару...
Бягуць працяробы ў баровую шэрасьць.
Сьвіціцца здалёку асмуглевы рум.

Ўтуліўшы галовы ў мурашнікі лесу,
Ашчэрылі зубы збуцьвелыя пні.
Вырастаюць гурмы шліпёраў, ачэсу.
Бярвеньне, як крохкая шклянка, зьвініць.

Пазырыўшы змору на дробныя шматы,
Сякуць дрывасекі, ня чуючы рук.
Агортвае ў лесе іх вечар крылаты,
А раніцай з неба праводзяць зару...

Па рэчцы ідуць параходы няс ынна.
Як вокам акінуць зіяюць плыты:
Адвозяць бярвеньне заводам краіны;
Плывуць і плывуць паўз алешнік густы

Нязломныя сілы у працы дазваньня
Фабрычнай краіне ня шкода аддаць...
Сякеры у лесе зьвіняць ад сьвітаньня,
За логам цьвіце кашміровая даль.

29/V—31 г.

# Вартуйце свой чырвоны сьцяг!














# ЗАЎТРАШНЯЯ ВАЙНА

Нарыс

Л. КЛІМЧУКА

— У бой за апошнюю вайну!—крычалі буржуазныя пісакі са шпальтаў шматмільённых газэт у жнівеньскія дні 1914 году. У імя гэтае апошняе вайны імпэрыялісты забілі 13 мільёнаў чалавек на шматлікіх франтох сусьветнай вайны. У імя гэтае апошняе вайны былі паранены і скалечаны мільёны юнакоў, дзяцей, старых, мужчын і жанчын для таго, каб на заўтра пасьля апошняе вайны пачаць ліхаманкавую падрыхтоўку да новае, яшчэ больш крывавае вайны.

Помніце жудасны малюнак, апісаны нямецкім пролетарскім пісьменьнікам Іоган Бэхэрам у яго кнізе „Люізіт“:

... Па асфальтавых вуліцах гораду гудзе чырвоны гураган чалавечых мас.

Вось маршыруе, памалу і ўсё зноў спатыкаючыся процэсія ахвяр вайны: некаторых нясуць на насілках, большасьць кульгае стомлена наперад на монотонна скрыпучых кастылёх, вось аддзяленьне асьлепленых, вось бязрукія, вось бязногія, вось тыя, у якіх захавалася толькі адно тулава. Тут нясуць плякаты: „Мы абяцалда вайны“, або „Вайна вайне“, або: „Пролетары, памятайце на імпэрыялістычную вайну“.

Бяз музыкі маршыруе процэсія.

На чале шкілет з лічбамі: „13 мільёнаў“.

...а вынік капіталістычнай сыстэмы, якая, зараз рыхтуецца ...ае сусьветнае бойні. Рыхтуюцца ўсе. Рыхтуецца Амэ... ...хтуецца Англія, Францыя, Германія, Італія, Японія...

Пад заслоны хмары пацыфісцкіх конгрэсаў, зьездаў, конфэрэнцый рыхтуецца новая разаніна. І трэба прызнаць, што ў с...аборніцтве балбатні аб мосна міру народаў усіх пераганяе мілітарыстычная Францыя, якая, праўда, хацела-б мірным парадкам праглынуць ня толькі Германію, але і добрую палавіну дзяржаў сухазем'я і колёній. Лепш і больш удала, чымся іншыя дзяржавы, Францыя добра ажыцьцяўляе заяву Мусоліні, што добрыя словы,—добрая справа, але добрыя кулямёты,—яшчэ лепш.

Мы хочам разам з мастацкім пропагандыстам француската імпэрыялізму Стэфанам Лёзанам павандраваць па прымежных слупох, горах, лагчынах, нізінах, якія аддзяляюць Францыю ад яе суседзяў, для таго, каб паглядзець, як старанна, як упарта і ўдзень і ўначы працуе Францыя над падрыхтоўкай новай, яшчэ больш крывавай, яшчэ больш жудаснай вайны.

У добрым аўтомобілі генэральнага штабу разьяжджае Лёзан уздоўж франка-нямецка-італьянскай мяжы, ён падымаецца на сьцежкі Альпаў, што аддзяляюць Францыю ад Італіі. І ўсё гэта для таго, каб паказаць нам, што сама Францыя ня дасьць ламанага граша за ўсе размовы аб разбраеньні. Стэфан Лёзан з высокіх Альпійскіх гор гаворыць усяму сьвету: „балбатайце шаноўныя панове аб разбраеньні, колькі вам уздумаецца. Францыя — ня дурніца, усур'ёз ніхто вашыя прамовы ня прыме“...

Стэфан Лёзан друкаваў свае ўражаньні ў парыскай газэце „Матэн“. Скарыстаем асобныя мясьціны з яго нарысаў, каб і нам хоць крыху ведаць пра тое, „як Францыя сёньня абараняецца“.

* * *

...На выгіне вузкай лагчыны раптам паказваюцца рыштаваньні вялізарнай будоўлі, што раскінулася на сотні мэтраў вакол. Яны маскіруюць работы, якія праводзяцца ў глыб зямлі. Груды рознага роду матэрыялаў. Ваганеткі бегаюць на рэйках. Электрычныя ліхтары падымаюць высока ў паветра свае шары.

— Які завод будуецца тут?—пытаюся свайго праваднїка.

Праваднік ухмыляецца.

— Гэта не завод,—адказвае ён,—гэта звычайны казэмат. Мы на абарончай лініі...

Мы ўжо ведаем, што казэмат, гэта тэрмін усякага абароненага ад варожага агню памяшканьня, у якім знаходзяцца агнявыя сродкі барацьбы, якімі з казэмату страляюць па праціўніку, тут-жа хаваюцца і людзі ад агню ворага. І ўздоўж усяе трохсоткілёмэтравае мяжы Францыя будуе гэткага роду казэматы. Такі казэмат будзе памерам ня больш дзесяці мэтраў і зможа захоўваць усяго толькі тузіну людзей і пару кулямётаў. Аднак каб пабудаваць гэты казэмат, трэба вынуць дзесяць тысяч кубічных мэтраў зямлі і працаваць вельмі ўпарта на працягу шасьці месяцаў. Наведаем яго.

...Перад намі бэтонны блёкгаўз. Гэта—баявая пабудова, прыстасаваная і ўзброеная для самастойнай кругавой абароны, абсталяваная ўсім патрэбным для жыцьця невялікага гарнізону. Але я ня ведаю кудой зайсьці ў гэты блёкгаўз? Да яго вядзе сьцежка, схаваная на ўзгорку. Вузкая шчыліна дазваляе празьзіць у сярэдзіну блёкгаўзу. Прайшоўшы туды, апынешся ў квадратовым памяшканьні з мэталічнымі сьценкамі, прабітымі толькі дзьвюма вузкімі адтулінамі, кудой праходзіць сьвятло і паветра. Праз гэтыя адтуліны пройдуць рулі кулямётаў. Гэтае памяшканьне крыху нагадвае каморку бранявой башні ваеннага карабля.

















## КОЖНАМУ КОЛГАСУ РАЗЬЛІКОВУЮ КНІЖКУ

НА ФОТА-ЗДЫМКАХ:
КОЛГАСЬНІК РАЗГЛЯДАЕ РАЗЬЛІКОВУЮ КНІЖКУ.
ГУТАРАЦЬ ПРА ЗЬДЗЕЛЬШЧЫНУ.
СІЛАСНЫЯ ВЕЖЫ.

ПІОНЭР ПРАВОДЗІЦЬ ПАДПІСКУ НА ПАЗЫКУ „ТРЭЦІ РАШАЮЧЫ“.

ПІОНЭРКІ ВЕШАЮЦЬ ПЛЯКАТ.
РАБКОР АПУСЬЦІЎ ЛІСТ.
КОЛГАСЬНІК РЫХТУЕЦЦА ДА НАЧНОЙ ПРАЦЫ.

# У БАРАЦЬБЕ ЗА БЕЛАРУОКІ ДОНБАС

## 100% выкананьня пляну







НА ЗДЫМКАХ: РОЗНЫЯ МОМАНТЫ ПРАЦЫ

# СЕЎ СКОНЧАНЫ

Нарыс
СЯРГЕЯ МУРЗО

ПАД шырокія вокны цэху падыходзіць вечар, кажа: „зьмена першая, працу канчай—ідзі на адпачынак“ Вечар, а ня верыцца—пяць гадзін, гэта альбо машыністы рана гудок даў.

На некалькі хвілін для агляду дынам станкі прыпынілі бег, рамяні скрыпнулі напружна, сталі... А ў калідоры ўжо зьвіняць галасы другой зьмены. Замурзаныя рабочыя сьпяшаюцца на сход, бо сёньня вельмі важнае пытаньне—інфармацыя падшэфнага калгасу аб выніках вясны—другой бальшавіцкай. Плешчыцца радасьць жыцьцёвая ў грудзёх у заводзкай моладзі. Дзень рабочых хлопцаў: сход заўкому, ячэйкі, вытворчая нарада. На крэслах селі больш пажылыя, а моладзь на вокнах.

Сход адчынены. Калектыўная гаворка змоўкла, калгасьнік інфармаваў: „сеў у асноўным скончаны, але з-за недахопу рабсілы ў пасадцы бульбы мы маем некаторы прарыў. Таварышы, вы бачылі барацьбу з кулацтвам у часе стварэньня калгасу. Зараз усім відавочна, што мы ідзем да сацыялізму“.

— Адпрацаваць заўтрашні выхадны.

— Скончыць пасадку бульбы—адказала ўся заля.

Заўтра а восьмай быць у колгасе, вынес пастанову сход.

Рабочыя выходзілі з заводзкага клюбу, вецер прыганяў у твар сьвежы сочны водар зялёнага лісьця.

* * *

Спалоханыя чарвякі ўзварушыліся на здобнай мяккай зямлі. Зямля парэзаная на вялізныя кавалкі хлеба прыкрывала пасаджаную бульбу. Пякло сонца. У першых лічбах маю дзе-ні-дзе яшчэ бялеў сьнег. Раптоўна рвануўшымся цягнікам прымчалася вясна, завіла зялёныя кудры дрэвам. Сукновыя зорныя бязмежжы абсыпала зялёнай травой. Як умовіўся з вясной. Глядзіш і травень на носе. Патрэбна многа рук. Шырокія палі аруць, людзі ходзяць, згінаючы сьпіны быццам шукаюць нешта. Здалёк каля нейкага будынку яны здаюцца падобнымі да чырвонаармейцаў. Рухаюцца рытмічна ў правы бок нібы практыкуюцца са стрэльбамі. Гэта брыгады ўскідваюць гной на калёсы. Адзін за другім цягнуцца вазы, гной раскідваюць на полі, ад яго сьцелецца на доле бялявы туман. З брыгадамі заводзкімі побач калгасьнікі. Спаборніцтва ідзе з суседнім калгасам таму і ніводнай мінуты прагулу няма. На днях вынікі—хто першым скончыць сеў. А над палямі на ўзгорку гнуцца тонкія вяршыны хвой. Часам жахлівым голасам пракрычыць лес і перад вачыма паўстаюць часы панаваньня белапалякаў. Хвоі дапамагаюць успамінаць старому майстру мінулае далёкае. А колькі неразгаданых быляй ведаюць сосны? Сёньня спакойнай гаворкай яны апавядаюць пра гэрояў заводаў і палёў.

* * *

У калгасе звонкі ўдар у чыгунны брусок замяняе сырэну. Усе здаюць інвэнтар, коняй адвозяць і ідуць да рэчкі мыцца. На траву сядаюць маленькія крыштальныя вадзяныя кропкі падобныя на падшыпнікавыя шарыкі. Сонца закацілася і на небе засталася чырвоная гушчыня воблакаў. Нейкія невядомыя гукі праносяцца ў маўклівы прастор. Ледзь чутныя, яны нагадваюць глухое шастаньне вады і говар у лазьні. Калі яны прыбоям рэчных хваляў даходзяць да вуха, раскацістыя гукі гэтыя нішто іншае, як гул заводаў і стон цягнікоў.. Лямпачкі над калгаснай хатай склалі літары:

КЛЮБ

Пры нязгушчонай яшчэ цемры чырвоныя хусткі і кашулі нагадваюць кляновае восенскае лісьце. Пад тонкае трэнканьне балалайкі крыкнулі частушкі. Іх больш усяго любяць кальгасьнікі: яны і мілагучны і прымітыўны. У гэтай песьні простым словам больш скажаш.

Калгасьнікі і завадзкія абвясьцілі сход і ганарова сялянамі было сказана:

— Сеў другой бальшавіцкай скончаны

Брыгада шэфаў у сярэднім падала 2 *га* ўзаранай і засаджанай зямлі.

У позьні час вышлі ў горад, разразаючы тулавам чорную тлустую ноч.

Трактары і ноччу спакою ня маюць—трашчаць, трашчаць...

Разьвітваючыся, сяляне гаварылі:

„І ночы для працы не хапае ў такія гады“.



ФОТО-ЭЦЮД





ФІЗКУЛЬТУРА РАБОЧЫМ СТАДЫЁН. Г. МЕНСК.

# Поэзія

*Валеры Маракоў.*

* * *

Горад грыміць і грыміць.
Вуліца проста да славы...
Грузка паўсталі дамы—
Постаць высокае справы.

Стаў я адзін на рагу.
Слухаю музыку руху.
Гулка трамваі бягуць,
Брэшуць аўтобусы глуха.

Ў нашай краіне вясна.
(Дадзена права на сонца!),
Й ты не адзін ля старна,
Гэткіх, як ты, бясконца.

Сам ты адчуеш зямлю—
(Поступ шырокага траўню),
Сам ты ім скажаш—люблю
Гэткіх і любых і слаўных.

Мне-бы стаяць і грымець
Ў грохаце вуліц, у натоўпе!
Мне-бы сьмяяцца з агіднага—сьмерць,
Што пралятае ў Эўропе.

Чую я гукі сырэн—
Гэта наступнага поступ,
Гэта інакшы Шопэн,
Творца высокага росту...

Будзем-жа славіць жыцьцё,
(Творчую песьню прыбою);
Будзем ісьці па касьцёх,
Тых, што памерлі бяз бою...

Будзем, як волаты мы—
Нашае права за намі...
Горад жыве і грыміць,
Камень кладзецца на камень...

Масква.

* * *

Стаю прад Пушкіным адзін
І думу думаю сувора.
Тут кожны камень мне гаворыць
Пра дні вялікіх пуцявін.

Я знаю, Пушкін,—вы поэт
І вашай музай акрылён я...
Вы лепшай славы лепшы цьвет
Ад Місісіпі і да Дону.

Ваш грозны шлях прывёў ў туман,
(І гэта заўжды нам знаёма).
Вам аняваць-бы новы стан
Больш і упарцей, чым другому.

Вы першы з першых. Вашу кроў,
Што дагарала ў дзікім сьнезе,
Завем мы песеннай зарой,
Сатканай з сонечных поэзій!

Прад вамі й я схіляюсь ніц
І гавару ў натоўпе вуліц,
Што вы з мэталю і зарніц
І мы па-свойму вас адчулі...

Мы знаем, Пушкін,—вы поэт
І ваша слова—меч крылаты...
Вы лепшай славы лепшы цьвет
І гэтай славай мы багаты.

Масква.

*Алесь Пруднікаў,*

## ПАСТУХ ТАМАШ.

Ля алешніку,
Ля вадапою,
Дзе травы—аксамітны шоўк,—
Думамі перапоўнены
Ён стругае кіёк
Нажом.
Тонкарунных пасе авечак.
Адкідаючы поглядам сьціплым...
А яны—
Па расе расквечанай
Маладую атаву шчыплюць...
Не па сіле, здаецца, яму-б
За такімі віхрастымі бегаць;
Ёсьць у дзеда
Сабака—Амур.
Без якога старому нельга.
Абвіецца Амур ля ног,
І прыгожы такі,
і любы...
Ліжа ён у барадзе ільняной
Языком тамашовы губы.
А калі за кустамі шум
Нанясе у табун перапуду—
Тамаша неахутвае жудзь.
Бо з Амурам,
Спакойным будзеш.
Помніць дзед, як у гэтых кустах
Шчэ з дзяцінства,
Шчэ нават змалку—
Пастушком у паноў падрастаў
Пад пагрозай дубовае палкі.
Так было
З Тамашом калісь...
Па каменьнях хадзіў ён босым
І зайздросьціў жыцьцю калін,
І зайздросьціў жыцьцю бярозак.
Бо калі пакрываўся луг
Саваном беласьнежнай зімы—
У каршэнь выганяў,—
У імглу
Пастуха свайго пан—
Грамык.
Многа сьлёз
На зямлю пралілося,
З-пад павекаў
Набраклых яго...
Шапацелі сузор'і калосьсем
Усьміхаючыся на загон.
Пад навесамі мокрых пунь
Начаваў адзінокі Тамаш...
Злосьць кіпела,
І помсты пульс,
Цішыню парушаў і туман...
... А цяпер—
Пастухом у колгасе,
Боль мінулы ў душы патух...
Пажартуе калі:
—Я уласьнік
Над усімі авечкамі тут!
І як сонца з блакітнай высі
За дубровую ціха ляжа,—
Дзед, з Амурам,
Як месяц, лысы,
Гоніць сытых авечак з пашы.
Нават ноччу,
Калі засьне,
Сны старому прыгожыя сьняцца:
—Па атаве густой, як сьнег—
Белыя скрозь—
Ягняткі...
А за імі Амур бяжыць,
Лапы закідваючы квола...

. . . . . . . . . . . . . . .

Ах, ты шыр... Лугавая шыр...,
Тонкарунных авечак
Воўна...

*Юлі Таўбін.*

(З кнігі вершаў „Экзамен“)

Мой добры,
мой даўні
мэнтар,
настаўнік
мае хады—
Вечар з глухім акцэнтам,
вечар сіняй вады.
Ішлі мы з табою—поруч,—
і лёгка-ж было ісьці,
трымаючыся
за поручы
над шчылінамі цясьнін.
Няхай
вымаўленьне
дзікае
Тваё дзівіла натоўп,
А ты
выпраўляў
мне дыкцыю,
І ты
задаваў мне тон.
Задумлівы
і патайны,
З нявыказанай
журбой...
Мой добры,
стары настаўнік,
Разыходзімся
мы з табой.
На сьлядох тваіх вырас плюшнік,
Дзікі неруш шчытом парос,
На павеках тваіх
нерасплюшчаных
Стынуць кроплі сьвітальных рос.
Цішэюць
твае крокі
У змроках пуцявін.
Шляхі мае
шырокія
Праходжу сам—адзін.
Калі
якому ў ахвоту
Хай
сочыць думы мае—
Калі
я даў сабе воту,
Я выканаю
яе.
Ня цьвіў я ніколі
бросьняй
І песьняй
ня гучэў, не.
Адна ў мяне толькі просьба,—
Каб веры далі мне
Калі ёсьць на сьвеце мэты,
Дык і я знайду свой бівак,
Калі быў у мяне мэнтар—
Я сказаў яму
„бывай“.

17/I—1931 г.



НА ПАБУДОВЕ — ФОТО-ЭЦЮД

# РАБОЧЫЯ - УДАРНІКІ НАГАРОДЖАНЫЯ ОРДЭНАМ Ул. І. ЛЕНІНА



Фэдзін—рабочы сьлесар.



Т. Рэзьнікава.



Трэшкевіч—брыгадзір брыгады пайкі.

# ГІШПАНІЯ НА РАЗДАРОЖЖЫ

Нарыс М. КАЛЬТОФЭНА.

Гішпанская рэволюцыя ўступіла ў рашаючы этап. Нізрынуцьце монархіі, у якім вялізарныя масы працоўных змагаліся за свае ўласныя інтарэсы, было толькі прэлюдыяй. Пытаньне, на якім спатыкнулася монархія і спатыкнецца хоць які буржуазны ўрад, гэта пытаньне вырашэньня аграрнай проблемы. Шэсьцьдзесят сем процантаў усёй зямлі знаходзіцца ў руках нешматлікіх буйных земляўласьнікаў, больш за ўсё ў руках каталіцкай царквы. Паасобныя ўладаньні (латыфундыі) дасягаюць да 15.000 *га* і часам яшчэ больш. Толькі на нямногіх з іх гаспадараць самі ўласьнікі. Паводле старой фэўдальнай сыстэмы для атрыманьня зямельнай рэнты маёнткі аддаюцца ў арэнду. Рэнта высокая і павялічваецца з урадлівасьцю зямлі так, што арандатар ніколі ня можа нават аплаціць затрачанай працы. Нярэдка маёнткі агулам перадаюцца прамежкавым арандатарам, якія ў сваю чаргу перадаюць зямлю зноў у арэнду. Гэты мэтод здачы зямлі ў арэнду павялічвае арэндную плату.

Маленькая карыкатура з дробнай каталанцкай вясковай газэты кідае пробліск на цяжкі стан сялянства: уласьнік, толькі што атрымаўшы рэнту, адыходзіць у задавальненьні з поўным мяшком на плячох, а селянін з сваёй сям'ёй застаюцца па пустым полі. „Ідыёт, ён-жа ўзяў ²/₃ усяго ўраджаю!" Жонка заспакойвае яго: „успакойся, ты толькі падумай—у Андалузіі яны-ж забіраюць усё!"

Такое сапраўднае становішча сялянства. Чаго не забярэ ўласьнік, тое праглынае падатак. Аб сельскагаспадарчых прыладах павінен турбавацца сам арандатар, само сабою зразумела, што пры яго цяжкім становішчы ён ня мае сродкаў для палепшаньня сельскагаспадарчых прылад і дзеля гэтага карыстаецца вельмі застарэлымі. Штучныя ўгнаеньні, напрыклад, ня ўжываюцца. Дрэнна выробляемая глеба не дае таго, што магла-б даць пры параўнаўча добрым гаспадараньні.

Вялікая частка зямлі наогул пустуе, бо адсутнічаюць сродкі да яе вырабу. З 45 млн. *га* прыдатнае для сельскае гаспадаркі зямлі апрацоўваецца толькі 20 млн *га*, а астатнія знаходзяцца пад пашай. Земляўласьнікі ані ня турбуюцца аб скарыстаньні зямлі і зацікаўлены толькі ў атрыманьні рэнты.

І хай пасьля доўгай бясконцай шматгадовай працы арандатар прымусіць прыроду да паслухмянства, зямлю да ўрадлівасьці, як прыходзіць паведамленьне аб высяленьні. Здаецца з першага погляду вельмі соцыялістычны закон гарантуе арандатару пасьля пэўнага раду год зямлю ў яго ўласнасьць, але на вялікі жаль да закону „забыліся" зрабіць заўвагу, якая-б забараняла памешчыку рабіць высяленьне арандатара, і ў рэчаіснасьці гэты закон хутчэй толькі шкодзіць арандатару. Апошні аднаго дня раптам траціць свой вучастак, будучы беззваротна выгнаным і павялічвае армію галоднага вясковага пролетарыяту.

Становішча амаль двух мільёнаў гішпанскіх дробных земляўласьнікаў зьяўляецца нялепшым. Мізэрныя земляўладаньні, часта па 1 *га* зямлі, перагружаны падаткамі і запазычанасьцю. Дробны селянін пакутвае ад тых-жа цяжкасьцяй, што і арандатары. І гэтаму віною ня толькі стыхійныя беды, якіх не адхіліць ніякай прадбачлівасьцю, але і цяжкасьці са збытам. Прадажныя цэны на сельскагаспадарчыя продукты вельмі нізкія, пры параўнаўча высокіх цэнах на тавары. Віною гэтаму нездавальняючыя транспортныя ўмовы. У 1923 г. працягласьць чыгунак складала 16.000 *км*, што дае на 1 *кв. км* плошчы толькі 0.003 *км* чыгункі. На кожныя 100 жыхароў па 0.7 *км*. (У даваеннай Расіі на 100 жыхароў прыпадала на 1,6 *км*!). Транспарт дзеля гэтага каштуе дорага, продукты роўнамерна не разьмяркоўваюцца па краіне; ва ўзьбярэжных і прыгранічных мясцовасьцях замежныя продукты, ня гледзячы на высокія мытныя пошліны, каштуюць таней за ўнутраныя. Дробныя сяляне, дзяржавай і царквою да апошняга высмактаныя, чарадамі пакідаюць свае ўладаньні. На працягу ўжо некалькіх год, дзяржава мізэрнымі мерапрыемствамі спрабуе спыніць уцяканьне сялян, але гэта не дае ніякіх вынікаў. Вясковы пролетарыят такім чынам атрымлівае бесьперапыннае папаўненьне з асяродзьдзя дробнага сялянства.

Вясковы пролетарыят, гэты найбяднейшы і найчасьцей за ўсё найбольш эксплёатуемы слой Гішпаніі, складаў у 1929 г. тры з чвэрткай мільёны. (Індустрыяльны пролетарыят ледзь налічвае ўсяго 1.750.000 чалавек). Умовы работы сельскагаспадарчых рабочых найгоршыя. За цяжкую работу выплачваецца ад 2 да 4.5 пэзэт на дзень, прычым да гэтага трэба далучыць пэрыядычнае беспрацоўе ў сувязі са спыненьнем у пэўных частках году палявых работ. Агулам кожны сельскагаспадарчы рабочы „сьвяткуе" ў год 101 дзень, шмат хто „сьвяткуе" нават да 200 дзён штогод! Сельскагаспадарчая камера провінцыі Сэвіля налічыла толькі ў сваім раёне 50.000 беспрацоўных сельскагаспадарчых рабочых: чатыры больш аддаленыя провінцыі налічылі 100.000 „сьвяткуючых". У 1930 г. больш 27.000 чалавек з прычыны беспрацоўя пакінула г. Лерца (79.000 жыхароў). Праз увесь час то тут, то там успыхваюць паўстаньні, якія душацца ў струменях крыві. Стары ўрад аж да самага свайго нізрынуцьця не дапамог, адрабляючыся толькі галаслоўнымі абяцанкамі.

Зусім зразумела, што ня гледзячы на няпісьменнасьць (Гішпанія мае 65 проц. няпісьменных, інакш кажучы стопроцантная няпісьменнасьць на вёсцы!),—ня гледзячы на неразуменьне і няяснасьць сваіх задач, вясковы пролетарыят рука ў руку з роспачлівымі арандатарамі і дробным сялянствам, складаў рэволюцыйныя масы пры нізрынуцьці старога ўраду. Пры бязьмежным зямельным голадзе нацыяналізацыя зямель буйных земляўласьнікаў была першым патрабаваньнем.

Інстынктыўна ўтвараліся вясковыя рады, як у Сарагосе і іншых мясцох, якія былі падобны да рускіх Саветаў. Рэспубліканскі ўрад, як і папярэдні каралеўскі, ужывае гвалт. Таксама і ён непахісна стаў на глебу прыватнае ўласнасьці, у той час як толькі неадкладная нацыяналізацыя зямель буйных уласьнікаў была адзіным выйсьцем. Перад усё узрастаючым абурэньнем сударжна шукае новы ўрад компромісаў. Міністр замежных спраў Лерусь ніжэйзьмешчанай заявай дае магчымасьць зразумець політыку новага ўраду.

„Я не разумею, чаму буйныя земляўласьнікі супраціўляюцца нацыяналізацыі іх маёнткаў, калі даходы застаюцца ім як і даўней".

Значыцца думаюць правесьці нацыяналізацыю выкупам—што інакш кажучы роўна непасільнаму абцяжараньню сельскагаспадарчых рабочых і сялянскіх мас.

Спачуваньне ўраду асобам, якія мелі ўладу пры каралі, заўважаецца з першага погляду ва ўсіх галінах жыцьця. Ня толькі ўчынкі, як дапушчэньне ад'езду караля, без таго, каб прымусіць яго да адрачэньня, як незаарыштаваньне былога дыктатара Бэрэнгера, які праз дзень пасьля выбараў плянаваў новы дзяржаўны пераварот; як прызначэньне Аунара, старшыню апошняга каралеўскага габінэту, галоўнакамандуючым флётам! Прычына для гэтага ёсьць—страх буржуазіі перад пролетарыятам. Хаця прамысловасьць яшчэ і ня разьвіта, хоць спосабы работы зусім застарэлі, хоць дзеля беднасьці шырокіх слаёў насельніцтва ўнутраны рынак зусім нязначны, але ўсё-ж такі стварыўся, праўда не шматлікі па колькасьці, але моцны па рэволюцыйнай клясавай сьвядомасьці, пролетарыят, які паўстае супроць мізэрнай аплаты і цяжкіх умоў работы. Гэты індустрыяльны пролетарыят, пазадзі якога стаіць абуджаючаяся сялянства і масы сельскагаспадарчых рабочых, патрабуе больш, як буржуазнай рэспублікі. Хоць у большасьці індустрыяльныя рабочыя і знаходзяцца, з прычыны неразьвітых вытворчых узаемаадносін, яшчэ пад анарха-сындыкаліцкім кіраўніцтвам, аднак на працягу апошніх год комуністы атрымліваюць усё большы ўплыў. На апошніх выбарах упяршыню ў прамысловых акругах былі выстаўлены і выбраны комуністы. Індустрыяльны пролетарыят сёньня натхнёны духам змаганьня. З усіх індустрыяльных цэнтраў атрымліваюцца паведамленьні аб вулічных баёх паміж рабочымі і „рэспубліканскімі" вайсковымі. У Сэвіліі ўжытыя пяхотныя палкі перайшлі на бок дэмонстрантаў.

Буржуазная рэспубліка ахоплена політычным жахам. Страх перад пролетарскай рэволюцыяй штурхае яе да саюзу з тымі, хто меў уладу раней. Гэтаму спрыяюць таксама і далейшыя супярэчнасьці, як, напрыклад, колёніяльнае пытаньне ў Мароко, у разьвязаньні якога народныя масы зьяўляюцца заўзятымі супраціўнікамі. Яшчэ так сьвежы ўспаміны аб пэрыодычных стратах крывёю і грашыма. Проблема нацыянальных маемасьцяй таксама пераблыталася ў клубок неразьвязальных супярэчнасьцяй. Каталанцы, баскі і інш. патрабуюць самавызначэньня. Каталанія абвясьціла сябе незалежнай рэспублікай. Толькі фэдэрацыйныя штаты могуць здавальняюча і поўна разьвязаць гэта балючае пытаньне.

Супярэчнасьці навочна павялічваюцца і абвастраюцца; толькі адно на сёньня застаецца непахісным і ясным, гэта тое, што рэспубліканскі ўрад ня зможа іх разьвязаць.

Гішпанія знаходзіцца толькі ў пачатку рэволюцыі. Сёньнейшыя рэволюцыйныя падзеі зьяўляюцца толькі пролёгам да Гішпанскай пролетарскай рэволюцыі.

Пераклад А. Б.

# ЖЫЦЬЦЁПІС МІЛЬЁНАЎ



Т. Падольскі.

Падвесное тачыла Т. Падольскага.



**Нарыс Л. БАРЫСАЎСКАГА.**

У ЛЕТАПІСАХ гісторыі чалавецтва няма конкрэтных і практычных інструкцый па соцыялістычным будаўніцтве, бо раней гэткага будаўніцтва ня было і не магло быць. Пабудова соцыялізму ёсьць ад пачатку і да канца справай рабочае клясы, якая пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі змагаецца і даможацца свайго ўласнага вызваленьня. І ў процэсе соцыялістычнага будаўніцтва рабочая кляса знаходзіць у сабе патрэбныя сілы для вырашэньня гэтае ўсясьветна-гістарычнае задачы. Рабочая кляса стварае колектыў соцыялістычных працаўнікоў, каб дамагчыся пастаўленае мэты. Імя гэтых работнікаў—легіён. Усе яны па-свойму легендарныя, баячныя, бо гісторыя чалавецтва яшчэ падобнага ня бачыла. Але ёсьць у кожным герої нешта такое, што вылучае яго з сотні тысяч яму падобных і пра гэта мы хочам тут расказаць.

* * *

— Нам патрэбны свае савецкага вырабу трактары—быў загад „Чырвонаму Пуцілаўцу".

Свае трактары—гэтыя словы гучаць вельмі горда. Да рэволюцыі ў нас пра трактары і ня марылі. Пасьля рэволюцыі мы выдаткоўвалі сотні тысяч валюты на закупкі замежных трактараў для нашага соцыялістычнага земляробства. І партыя загадала: апанаваць гэтым тэхнічным узвышшам—даць свае трактары.

Інжынэры тэхнічнай камісіі, якія выпрацоўвалі проект трактарнага цэху, глыбока ня ўдумлівалі ў гэтую справу. Інжынэр Іваноў лёгка працягнуў свой шкодніцкі проект. Дарма даводзіў інжынэр Тэр-Асатураў усю шкоднасьць проекту Іванова. Пяцігадовы інжынэрскі стаж Тэр-Асатурава быў пераможаны у камісіі багатай практыкай і соліднасьцю Іванова.

Проект Іванова быў ухвалены.

Тэр-Асатураў паехаў у Амэрыку для разьмяшчэньня заказаў на абсталяваньне. І, калі Асатураў пабачыў патрэбныя варштаты, ён яшчэ больш пераканаўся ў тым, што яго проект мае рацыю.

Профіль варштатаў не супадаў з профілем карпуў. Каб памясьціць варштаты ў корпус, прышлося-б ламаць сьцены новапабудаванага гмаху.

Тэр-Асатураў з двума маладымі савецкімі інжынэрамі на чужыне, у Амэрыцы, узяўся за перапроектоўку, нанова перарабляецца ўвесь тэхнолёгічны процэс, нанова плянуецца корпус, адны варштаты замяняюцца іншымі. У працягу дзесяці месяцаў тры інжынэры і ўдзень і ўначы працавалі над новымі проектамі.

Адказная пабудова была выратавана.

Тады шкоднікі рашылі даць бой па лініі тэмпаў. Бачачы, што іх проект праваліўся, яны высунулі другі плян—даць у 1930 г. 10.000 трактараў, сабраных з імпортных дэталяў.

Тады партыйны колектыў заводу на чале са сваім адказным сакратаром т. Алексеевым высунуў свой сустрэчны плян—20.000 трактараў з савецкіх дэталяў.

Завод дамогся перамогі і з'эканоміў $2^1/_2$ мільёны залатых рублёў.

Пролетарская дзяржава ўзнагародзіла т т. Тэр-Асатурава і Аляксеева вышэйшай узнагародай—ордэнам Леніна.

А такіх ня мала. Мы-б маглі расказаць пра маладога комсамольца Мірошнічэнка Янку, які яшчэ зусім нядаўна кінуў піянэрскі атрад, якому ўсяго толькі 20 год, але які пасьпеў ужо сваёй работай зьдзівіць увесь сьвет, перад якім спасавала ўзброеная да зубоў капіталістычная тэхніка.

У канцы 1932 г. чыгункі СССР перавязуць рознага рода грузаў больш чым $4^1/_2$ разы ў параўнаньні з даваенным часам, і больш чым у $2^1/_2$ разы ў 1930 г. У гэтым самым годзе работа транспорту па перавозцы пасажыраў дасягае ста мільярдаў пасажыра-кілёмэтраў. Што азначае гэты факт? Іронія, фантазія? Так. Гэта стаіць на мяжы фантазіі, але для капіталістычнага сьвету. І іх занепад, а ў нас вялізарны рост, які бязупынна павялічваецца ўсё больш і больш.

Але для гэткіх тэмпаў перавозак наш транспорт вымагае грунтоўнага тэхнічнага пераўзбраеньня. Дык, вось, адну з вельмі адказных частак тэхнічнай рэволюцыі па транспорце складае аўтоматычнае счапленьне вагонаў. Увесь транспорт амэрыканскіх чыгунак быў ужо ў 1910 годзе абсталяваны аўтоматычным счапленьнем. У нас гэтага зусім ня было. Але аніводная з існуючых амэрыканскіх сыстэм аўтоматычнага счапленьня не адпавядае ўсім тэхнічным запатрабаваньням і нас яны задаволіць ня могуць. Вось чаму быў абвешчаны ўсесаюзны конкурс на проект лепшага аўташчапленьня.

# ВЫШЛІ З ДРУКУ

Платон Галавач

**СПАЛОХ на ЗАГОНАХ**

АПОВЕСЬЦЬ

179 стар. Цана 75 к.

---

Зьмітрок Бядуля

**ЯЗЭП КРУШЫНСКІ**

РАМАН

Другое выданьне 416 стар. Цана 2 р. 30 к.

---

Мікола Хведаровіч

**ТЭМПЫ— КАНТРАСТЫ**

110 стар. Цана 1 р. 25 к.

---

Іоган Бэхэр

**ЛЬЮІЗІТ**

391 стар. Цана 1 р. 75 к.

---

Міхась Багун

**РЭХА БУР**

ВЕРШЫ

78 стар. Цана 75 к.

---

Пятро Броўка

**ЦЭХАВЫЯ БУДНІ**

ПАЭЗІЯ

55 стар. Цана 60 к.

---

С. Грыгор'еў

**БЭРКА КАНТОНІСТ**

241 стар. Цана 1 руб.

---

Мікола Багданаў

**ПЕРШАЯ ДЗЯЎЧЫНА**

135 стар. Цана 1 р.

---

Васіль Сташэўскі

**КОЙДАНАЎСКАЯ МТС**

46 стар. Цана 15 кап.

---

Барыс Мікуліч

**УДАР**

Апавяданьне

110 стар. Цана 70 к.

Цана 20 кап.





# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1931

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Аралава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Кавалля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Позмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Сямянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых карэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь“ будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыоду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

## Умовы падпіскі:

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 К.**

**Падпіска прымаецца:** усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1528. 12.700 экз. Галоўлітбел № 1031